



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

19 кастрычніка 2018 года №42 (1225)


# Сёлета неверагодная восень – захавайце яе

старонка 2

Фота Іны БАЖКО.



ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





## Базар у Маладзечне пераязджае на «Спадарожнік»



старонка 2

## Базар пераязджае на «Спадарожнік»

МАЛАДЗЕЧНА

**Рынак райспажыўтаварыства збіраліся пераносіць не адзін год. Нарэшце збылося – «Спадарожнік» чакае пакупнікоў.**

Плошча гатовая для таго, каб прыняць наведнікаў. Ужо працуе першы арандатар. Другі зладзіць урачыстае адкрыццё ў суботу, 20 кастрычніка.

Пра тое, што аб'ект каля «Спадарожніка» гатовы прымаць рынак, распавялі ў адміністрацыі цэнтра.

Пра неабходнасць пераносіць рынак райспажыўтаварыства ўлады горада казалі некалькі год. Адна з праблем была ў тым, што ў базарныя дні тэрыторыя вакол рынку запоўненая аўтамабілямі. Гэта вельмі нязручна і для наведнікаў, і для жыхароў дамоў каля яго.

Меркавалася, што на месцы рынку паўстане жылы дом з гандлёвымі аб'ектамі на першым паверсе.

**Аддзел інфармацыі.**

## У выпадку аварыі на атамнай станцыі эвакуююць шэсць тысяч жыхароў Літвы

Як перадае партал delfi.lt, у выпадку аварыі на Беларускай АЭС плануецца эвакуяваць шэсць тысяч чалавек, якія жывуць у 30-кіламетровай зоне вакол АЭС. Гэта прадугледжана ў абноўленым «Плане абароны насельніцтва на выпадак інцыдэнту на БелАЭС».

«Мы запланавалі эвакуацыю прыкладна шасці тысяч жыхароў», – сказаў на прэсавай канферэнцыі прадстаўнік дэпартамента супрацьпажарнай аховы і выратавання **Эдгарас Гяда**.

Ён падкрэсліў, што жыхары будуць эвакуявацца з найбольш небяспечнай 30-кіламетровай зоны толькі ў самым крайнім выпадку – калі здарыцца буйная аварыя ці ў выпадку неспрыяльных метэаралагічных умоў, калі вецер будзе дзьмуць з усходу на захад.

Беларусь паабяцала аператыўна папярэдзіць Латвію ў выпадку ядзернай аварыі.

Пастаўка ядзернага паліва на БелАЭС чакаецца ў лістападзе сёлета. Увод у эксплуатацыю першага энергаблока запланавалі на снежань 2019 года, другога – на ліпень 2020-га.

Літва не раз ставіла пад сумнеў выбар для будаўніцтва АЭС астравецкай пляцоўкі, якая ўсяго за 50 кіламетраў ад Вільні. Краіна не верыць у надзейнасць стрэс-тэстаў станцыі, пратэстуе супраць БелАЭС на найвышэйшым дзяржаўным узроўні, выказвае пратэсты ў міжнародных структурах і заклікае не купляць электраэнергію з БелАЭС. У гэтым іх падтрымлівае прэзідэнт Эстоніі.

**Паводле delfi.lt.**

## Вадаём каля найстарэйшага вяза краіны расчысцілі

МАЛАДЗЕЧНА

Работы па расчыстцы вадаёма каля вяза ў Верхніх Талуях пачалі на мінулым тыдні.

Падрабязней пра сітуацыю з дрэвам расказаў старшыня Маркаўскага сельвыканкама **Іван Мацэвіч**.

Тры дні на месцы працаваў экскаватар, які вычышчаў з вадаёма глей. Яго скарысталі ў якасці ўгнаення. Падчас работ зрабілі таксама паглыбленне з гары, каб з узвышанасці сцякала вада пасля дажджу і ад талага снегу ў сажалку.

Работы выконвала ПМК-32, сартавыпрабавальная станцыя дапамагала вывозіць глей.

Па словах Мацэвіча, ад расчысткі дна вады ў сажалцы не пабольшала. Выглядае, што вада ў сажалцы ішла не з падводных крыніц, а напаўнялася дажджамі. Аднак дакладна на гэта адкажуць спецыялісты.

Выкапалі глей на глыбіню прыкладна ў паўтара метра. Цяпер чакаюць дажджу, каб вадаём напоўніўся вадой.

Сельвыканкам разам з інспекцыяй па ахове прыроды плануюць правесці тут суботнік – запрасіць валанцёраў, якія дапамаглі б добраўпарадкаваць сажалку пасля работ эскалатара. Хочуць непадалёк паставіць лаўкі – каб тым, хто хоча паглядзець на славутасць, было дзе адпачыць.

Пра вяз у Маркаўскім сельсавеце мы пісалі ў канцы верасня ў №39 «РГ». Яго называюць найстарэйшым у Беларусі, а, магчыма, нават у Еўропе. Называюць розны яго ўзрост, але дакладную лічбу мы пакуль не атрымалі. У мінулым годзе дрэва пачало сохнуць, таму што высыхала сажалка каля яго. Без вады ў ёй дрэву цяжка атрымліваць дастаткова вільгаці.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Адзін са знойдзеных артэфактаў.



Максім Чарняўскі на раскопках у Арпе.

# У Арпе даследавалі гарадзішча мяжы тысячагоддзяў

ВІЛЕЙКА

**На мінулым тыдні эксперты праводзілі работы ў кар'еры каля вёскі Арпа Крывасельскага сельсавета.**

Гэта быў папярэдні этап даследаванняў, каб вызначыць памер работ, якія спатрэбіцца выканаць.

Падрабязней пра работы распавёў старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук **Максім Чарняўскі**.

Даследчыкі мелі набор невялічкіх шурфаў, каб праверыць захаванасць культурнага пласту ў розных месцах гарадзішча. Для таго, каб пабудаваць план па даследаванні гэтага гарадзішча.

У перспектыве гарадзішча будзе знесенае цалкам пад кар'ер. Паралельна адсочвалі знаходкі.

На жаль, гарадзішча знішчанае або яго вельмі моцна пашкодзілі дарожныя работнікі, працэнтаў на 70, падчас падрыхтоўчых работ. Усё роўна даследчыя працы будуць па ўсёй плошчы, таму што там засталіся сляды ад гаспадарчых пабудоў і жытлаў.

Знайшлі тыповыя керамічныя вырабы, якія прадстаўляюць культуру штрыхаванай керамікі, металічныя вырабы, грузікі ад ткацкіх станкоў, жужаль. Каб не пашкодзіць пласт, не дасягалі самых цікавых месцаў.

Аплачвала работы ДБУ-13. Археалагічная частка работы завершаная.

Мяркуецца, што гарадзішча, знойдзенае ў Арпе, існавала на мяжы тысячагоддзяў.

Пра гарадзішча ў Арпе мы пісалі ў мінулым годзе. Дарожная служба знайшла месца пад кар'ер і пачала здабываць там пясок. Аднак своечасова спахапіліся мясцовыя краязнаўцы – на гэтай тэрыторыі размяшчалася гарадзішча жалезнага веку, а ў зямлі захаваліся артэфакты з таго часу.

Калі дарожнікам давалі дазвол на работы, хтосьці ў ланцужку службаў не звярнуў увагу, што на гэтай тэрыторыі размешчаны мясцовы археалагічны помнік. Такіх у раёне налічваецца каля дзесяці.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.**

## Сёлета неверагодная восень – захавайце яе на фота

**Такое адчуванне, што ад сёлетняй восені ў захапленні ўся Беларусь.**

І сапраўды – верасень выдаўся самы цёплы з пасляваеннага часу. А ў кастрычніку столькі сонечных дзён, што ён нагадвае май.

У такой чароўнай восені хочацца застацца як мага даўжэй. Ці хаця б захаваць яе прыгажосць. Мы папрасілі вядатных фатографаў з нашага рэгіёна падзяліцца здымкамі гэтай восені, якія ўжо паспелі зрабіць. На першай паласе фота **Іны Бажко**. Яе мадэль Нэлі сама прыдумала вобраз.

Фантастычныя здымкі папоўнілі партфолія **Дзмітрыя Караля**, **Ірыны Сяліцкай**, **Андрэя Клімаўца**, **Святланы Сеннікавай**. І ў кожным – свая ідэя і адметная прыгажосць.

Паглядзець падборку фотаздымкаў вы можаце на нашым сайце rh.by. А мы запрашаем і прафесійных фатографаў, і аматараў далучыцца да акцыі «Не губляй ніводнага дня!». Дасылайце свае сёлетнія фота на адрас regionnews@rh.by. Паверце, вашымі здымкамі трэба любавацца!

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Не губляй ніводнага дня».

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна дасляць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары «РГ» на 2019 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, таксама атрымае падарунак.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Ірыны СЯЛІЦКАЙ.

Фатограф Ірына Сяліцкая схапіла восень у кадр.

# Не глядзім тэлевізар, не ядзім кілбасу

## Маладзечанка – пра сямейны бюджэт

Бягучыя выдаткі (адзенне, абутак, курсы, забавы, паездкі і іншае) 300

Арэнда кватэры 200

Бензін 150

Ежа 300

Камунальныя плацяжы, мабільная сувязь, інтэрнэт 130

Цырульня 40

Манікюр 25

Касметыка 20

Сямейны бюджэт SMM-менеджара і работніка электрасетак.

**Тацццяна жыве з мужам. Яна займаецца SMM-прасоўваннем акаўнтаў у інстаграме. Муж працуе ў маладзечанскіх электрасетках. Агульны бюджэт – прыкладна 1500 рублёў.**

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанка пачала працаваць у інтэрнэце ў красавіку гэтага года. Раней выкладала англійскую мову, была менеджарам па продажах.

– Надакучылі неадэкватныя працадаўцы, якія выціскаюць з цябе ўсе сокі і плацяць капейкі. Вырашыла стаць фрылансерам, паглядзець, што гэта такое.

### Чым займаецца SMM-менеджар

Па словах гераіні, праца дастаткова складаная. Трэба ведаць тэхналогію прасоўвання, разбірацца ў бізнесе кліента, быць піяршчыкам, дызайнерам, рабіць рэкламу і даследаваць рынак.

Таму за вядзенне аднаго акаўнта плацяць ад 500 рублёў. Цяпер Таццяна працуе з двума кліентамі.

Бюджэт пераважна размяркоўвае муж.

Жывуць у найманай кватэры. За месяц плацяць 200 рублёў. На камунальныя выдаткоўваюць прыкладна 130 рублёў. Сюды ўваходзяць аплата мабільных – каля 20 рублёў, інтэрнэту – 25. Тэлевізара няма – пазбавіліся пяць гадоў таму.

– І радуемся, бо тэлевізар – непатрэбны пажыральнік часу. Калі хочацца паглядзець любімы фільм, уключаем камп'ютар.

У нашых герояў ёсць машына. На бензін у месяц сыходзіць каля 100-150 рублёў.

### Колькі ідзе на ежу

На ежу выдаткоўваюць каля 300 рублёў. У краму ходзяць праз дзень. Таццяна з мужам – аматары здаровага харчавання, не ядуць кілбас, вэнджанін, каўбас, кансерваў.

– На стале толькі свежапрыгатаваныя стравы, нізкакаларыйныя. Мы не аматары вялікіх застолляў. Лепш прыгатаваць невялікую колькасць нечага цікавага. Чалавек не зможа з'есці кілаграмы ежы, яна будзе псавацца ў халадзільніку.

Свякроў Таццяны мае агарод, дапамагае фасоляй, перцам, зелянінай, яблыкамі, буракамі, морквай. Закаткі сям'я не робіць – лічыць шкодным, гатуе варэнне-«пяціхвілінкі». Замарожвае .

### Колькі каштуюць анлайн-курсы

Таццяна робіць манікюр – гель-лак каштуе 25 рублёў. Стрыжка і фарбаванне валасоў – прыкладна 40. На касметыку – 20. Адзенне сям'я набывае раз у тры месяцы.

Адкладваць грошы амаль не атрымоўваецца. Таццяна праходзіць курс па капірайтынгу менавіта па напісанні тэкстаў для інстаграма. І курс па таргетаванай рэкламе. Кошт першага цалкам – прыкладна 650 рублёў, другога – 800. Грошы на іх Таццяна адкладала раней.

Летась сям'я падарожнічала па Беларусі – Заброддзе, Гервяты, Солы… У тэатр і кіно Таццяна ходзіць, сёлета ў асноўным адна – у мужа мала выхадных.

– Раней стараліся абавязкова раз у месяц некуды выходзіць ці выязджаць. Спадзяюся, узновім традыцыю.

Астатнія грошы ідуць на запчасткі для машыны і незапланаваныя выдаткі.

**Таццяна КАСЬЯН.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.10 | 18.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1453 | **2.1066** |
| Еўра | 2.4623 | **2.4365** |
| Злоты, 10 | 5.7195 | **5.6768** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2417 | **3.2210** |
| Грыўня, 100 | 7.6632 | **7.5451** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 10.10 | 17.10 |
| Еўра | 2.4590/5.4790 | **2.4250/2.4500** |
| Долар ЗША | 2.1390/2.1570 | **2.0950/2.1150** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 10.10 | 17.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | **18,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | **4,60** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,60 | **1,75** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 2,60 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 1,00 | **2,00** |
| Дыня, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,60 | **0,80** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

**Даведка «РГ»:**

**Інстаграм** – дадатак для абмену фатаграфіямі і відэазапісамі з элементамі сацыяльнай сеткі.

**Фрылансер** – свабодны працаўнік.

**Капірайтынг** – напісанне тэкстаў прэзентацыйнага і рэкламнага характару.

**Таргетаваная рэклама** – аб'явы, якія бачаць толькі тыя карыстальнікі інтэрнэту, якія падыходзяць да пэўных патрабаванняў, зададзеных рэкламадаўцам.

● УВАГА, ВЫШУК!

## Сышоў з фермы і знік: міліцыя шукае маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

Канстанцін Віннік 13 кастрычніка пасля абеду сышоў з фермерскай гаспадаркі «Ветлаў», што ля Дамашоў. Да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае. Цяпер мужчыну шукае міліцыя, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Канстанцін Віннік жыве ў Маладзечне ў шматкватэрным доме па Прытыцкага.



Прыкметы: на выгляд 45 гадоў, рост 175 см, нос прамы, вочы блакітныя, валасы чорныя, кароткія. Быў апрануты ў шэрую куртку, чорную шапку, карычневую кофту, камуфляжныя штаны і чорныя красоўкі.

Супрацоўнікі аддзялення крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС звяртаюцца да грамадзян з просьбай: калі вы ведаеце пра месцазнаходжанне Канстанціна Вінніка, паведаміце аб гэтым па тэлефонах: **(8-0176) 74-96-83, (8-0176) 77-16-56, (8-029) 546-40-44** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па нумары **102.**

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Паехаў з Крывога Сяла ў Вілейку і знік

ВІЛЕЙКА

Вілейская міліцыя шукае **Сяргея Мікалаевіча Новаша**, ураджэнца вёскі Клоўсі Вілейскага раёна, 1976 года нараджэння.

Мужчына жыве ў Крывым Сяле на Вілейшчыне па адрасе: **Першамайская, 16-1**.

4 кастрычніка ў 15:00 Сяргей Новаш з'ехаў з дому ў Вілейку. Да гэтага часу месца яго знаходжання невядомае.



**Прыкметы:** на выгляд 40-45 гадоў, рост 175-180 сантыметраў, худы, з карымі вачыма, з залысінамі на лбе.

**Быў апрануты** ў чорны пухавік да пояса, чорную байку з белымі палоскамі, сінія джынсы, чорныя красоўкі «Адыдас» з белымі шнуркамі.

**З сабой меў** мабільны тэлефон «Самсунг» у корпусе белага колеру, нумар **(8-025)756-00-29**, шмат сім-картак, звязку ключоў, ваенны білет, пашпарт.

Каму нешта вядома пра месцазнаходжанне Сяргея Новаша, тэлефануйце на нумар **(8-01771) 5-64-62.**



## Сышла з дому ў невядомым накірунку: міліцыя шукае віляйчанку

ВІЛЕЙКА



Вілейскі РАУС шукае **Марыю Васільеўну Маліноўскую**, 1939 года нараджэння, ураджэнку вёскі Кабылкі Маладзечанскага раёна.

Жанчына жыве ў Вілейцы па адрасе: **вуліца Каралёва, 121-а**.

Марыя Маліноўская ў перыяд часу ад 18:30 12 кастрычніка да 17:00 13 кастрычніка выйшла з дому і пайшла ў невядомым накірунку. Сёння яе месцазнаходжанне невядомае

**Прыкметы:** на выгляд 80 гадоў, рост 146 сантыметраў, худая, сівыя валасы, шэрыя вочы, горбіцца.

**Была апранутая** ў хустку невядомага колеру, сіне-зялёную куртку, жоўты світар, вязаныя зялёныя штаны, гумовыя сінія галошы.

Мабільнага тэлефона з сабой у жанчыны не было.

Калі вам нешта вядома пра месцазнаходжанне жанчыны, тэлефануйце на нумар **(8-01771) 5-64-62.**

**Віталь ПАСЛЕД, старшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**



Фота з сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Частка скрадзеных рэчаў.

# Гаспадары прыязджалі і бачылі свае дамы пустымі

## Завяршылі справу зладзеяў, што «працавалі» ў нашым рэгіёне

ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН
МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ
МЯДЗЕЛ

**Следчыя завершылі расследаванне крымінальнай справы аб серыйных крадзяжах.**

На працягу некалькіх гадоў у праваахоўныя органы паступалі заявы грамадзян аб тым, што ў іх крадуць маёмасць з лецішчаў у рэгіёне

У ходзе следчых дзеянняў і аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устанавілі чатырох падазраваных.

Мужчын затрымалі ў снежні 2017 года ў Мядзельскім раёне падчас чарговага злачынства. У ліку абвінавачаных – 48-гадовы раней судзімы і 28-гадовы жыхары Мінскага раёна, 26-гадовы і 31-гадовы маладзечанцы.

Устанавілі, што мужчыны на мікрааўтобусе аб'язджалі дачныя пасёлкі і шукалі дамы, дзе не было гаспадароў. Пашкоджвалі замкі, дзверы або вокны, пранікалі ў дом, гараж, хлеў і выкрадалі любую маёмасць: мэблю, электраінструменты, прадметы інтэр'еру, бытавую і іншую тэхніку.

Некаторыя пацярпелыя ўвогуле прыязджалі і бачылі свае дамы пустымі. Абвінавачаныя збывалі крадзенае на рынках сталіцы, а таксама пакідалі сабе ў карыстанне.

Следчыя ўстанавілі 90 фактаў крадзяжу маёмасці ад лютага 2015 года да снежня 2017 года на тэрыторыі Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Мінскага, Смаргонскага раёнаў.

Па месцы жыхарства фігурантаў знайшлі каля тысячы скрадзеных рэчаў. Агульная сума нанесенай шкоды складае больш за 170 тысяч рублёў. Маёмасці гаспадарам змаглі вярнуць на 86 тысяч рублёў.

Арыштавалі ўласную маёмасць фігурантаў на агульную суму каля 55 тысяч рублёў.

Трох абвінавачаных заключылі пад варту. Чацверты – пад хатнім арыштам. Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Паводле сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Падазраваных у продажы марыхуаны затрымалі ў Радашкавічах

МАЛАДЗЕЧНА

У ходзе праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў затрымалі чатырох чалавек у Радашкавічах.

Як распавёў начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Сухоцкі**, фігуранты ў поле зроку міліцыі трапілі падчас рэйдавых мерапрыемстваў па месцах масавага адпачынку моладзі.

Пры адпрацоўцы аднаго з кафэ ў Радашкавічах аператыўнікам паступіла інфармацыя аб тым, што тут можна набыць марыхуану.

У ходзе праверкі гэтых звестак і далейшай аператыўнай распрацоўкі ўвечары 11 кастрычніка ў пасёлку затрымалі чацвёра маладых людзей.

Спачатку недалёка ад кафэ аператыўнікі затрымалі 23-гадовага мясцовага жыхара, у якога пры асабістым даглядзе знайшлі больш за 10 грамаў марыхуаны.

Малады чалавек распавёў, што неаднаразова набыў зелле за 150 долараў. У ходзе далейшых мерапрыемстваў звярнулі ўвагу на кватэру па вуліцы Пралетарскай. І ўжо літаральна праз гадзіну затрымалі аднаго з наведнікаў гэтай кватэры, які меў пры сабе скрутак фольгі з наркотыкам.

Наступныя затрыманні адбываліся ўжо непасрэдна ў кватэры. У 24-гадовага гаспадара і яго 27-гадовага знаёмага таксама знайшлі скруткі з марыхуанай – больш за два грамы ў кожнага.

Акрамя гэтага, у кватэры супрацоўнікі міліцыі знайшлі матэрыял для ўпакоўкі наркотыку, шалі, схованку з грашыма. Больш за дзве тысячы долараў фігурант схаваў у сістэмным блоку камп'ютара.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Перакулілася фура з 200 свіннямі

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 15 кастрычніка каля 13 гадзін у пасёлку Беразінскае.

Вадзіцель кіраваў фурай, якая везла 200 галоў свіней.

– Калі з'язджаў са спадзістага спуску, на закругленні выбраў няправільную хуткасць, – патлумачыў дзяржаўтаінспектар **Павел Аноп**.

Машына перакулілася. Шмат жывёл загінула – іх заціснула. Астатніх свіней эвакуавалі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## У возеры знайшлі машыну з целамі зніклых рыбакоў

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне 16 кастрычніка знайшлі целы двух загінулых рыбакоў.

6 кастрычніка яны паехалі на рыбалку на возера ля вёскі Белае і зніклі.

16 кастрычніка аўтамабіль VW Transporter белага колеру, на якім мужчыны з'ехалі, дасталі з возера разам з целамі рыбакоў.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**







# Як выбраць дамашняга гадаванца

## Выбар гадаванца залежыць ад характару гаспадара?

**Што можа быць прасцей, чым набыць дамашняга гадаванца? Зайшоў у краму, купіў – і атрымлівай асалоду ад новага сябра. Тады чаму радасць праз некалькі тыдняў змяняецца расчараваннем? Як выбраць жывёлу, каб застацца задаволеным? Мы падрыхтавалі падрабязны спіс, каб вы дакладна не памыліліся.**

Піша Уладзіслава РЫНЕЙСКАЯ.

### Каты

**Плюсы**

З катамі не трэба гуляць на вуліцы. У любы момант можна працягнуць руку і пачасаць котку за вушкам ці пагладзіць. Каты ўтульна муркаюць, а халодным восеньскім вечарам замяняюць грэлку. З імі можна гуляць у «мышку», глядзець, як падскоквае за мыльнымі бурбалкамі.

**Мінусы**

Ката не заўсёды атрымліваецца прывучыць да латка. Яны любяць тачыць кіпцюры аб крэслы і канапы.

Ад ката-хулігана не выратуецца ні елка, ні ваза. Жывёлы пакідаюць поўсць па кутках дома, на адзенні, у ежы.

**Хто заводзіць катоў**

Часам самотныя, мілыя, харызматычныя людзі. Хто хоча праявіць бацькоўскія пачуцці.

**Не заводзяць катоў**

Людзі з алергіяй на поўсць. Незалежныя і дзелавыя.

### Сабака

**Плюсы**

Добра паддаюцца дрэсіроўцы, могуць ахоўваць жыллё. Верныя і надзейныя сябры чалавека, калі за імі добра даглядаюць. З жывёлай можна гуляць сумным вечарам. Радавацца, калі сустракае прыветлівым брахannем.

**Мінусы**

З сабакам трэба гуляць штодня. Калі яго не дрэсіраваць, ён перастане прызнаваць у вас аўтарытэт. Пачне грызці рэчы, хадзіць у туалет дома, нават нападаць на людзей.

**Хто заводзіць сабак**

Жанчына выбірае сабаку ў залежнасці ад адносінаў да мужчын. Буйную пароду абіраюць, калі бачаць у супрацьлеглым поле надзейнасць, абарону. Малой аддаюць перавагу тыя, хто каштоўнымі якасцямі лічыць адданасць, пачуццё гумару, уменне выслухаць.

Мужчына абірае сабаку, які мае яго рысы. Бультэр'ер – мужчына агрэсіўны, колі – рамантычны, ратвейлер – стрыманы ў пачуццях. Дзіця бачыць у сабаку абаронцу. Калі малому самотна, у яго з'яўляецца мара мець шчанюка.

**Не заводзяць сабак**

Тыя, хто не любіць камандаваць і кіраваць кім-небудзь. Адкрытыя свету людзі, якія ў выпадку небяспекі дапамагаюць сабе самі або просяць сяброў. Часам гультаі ці вельмі занятыя людзі. Людзі з алергіяй.

### Пацукі

**Плюсы**

Пацукі вельмі цікаўныя жывёлы, любяць даследаваць свет. Прывыкаюць да рук, могуць увесь дзень праседзець у гаспадара на плячы. З імі можна гуляць.

Пацукі адгукаюцца на мянушкі, паддаюцца дрэсіроўцы, могуць выконваць самыя розныя трукі.

**Мінусы**

Трэба часта прыбіраць клетку – пацукі не акуратныя. Звычайна «жывуць» ноччу. Таму пасля выключэння святла клетка пачне хадзіць хадуном. Пацукі могуць грызці пруты і абсталяванне доміка – так яны точаць зубы. Трэба сачыць за іх рацыёнам.

**Хто заводзіць пацукоў**

Людзі, якія маюць нестандартнае мысленне, актыўныя, крэатыўныя. Хто спачатку ўсё абдумвае, а потым робіць выснову.

**Не заводзяць пацукоў**

Кансерватыўныя і асцярожныя, якія прытрымліваюцца ў жыцці агульнапрынятага меркавання. Тыя, хто не пераносіць пах жывёл.

### Хамякі і мышы

**Плюсы**

Спакойныя і мілыя жывёлы. Хамяка ці мыш можна патрымаць на руках. Адгукаюцца на кліч. Лісліваяя мордачка мышы і пухлыя шчочкі хамяка растопяць любое сэрца.

**Мінусы**

За імі трэба часта чысціць клетку. Пастаянна насыпаць корм. Дрэсіроўцы не паддаюцца. Жывёлы могуць актыўна размнажацца. Прычым калі-нікалі нават ядуць дзяцей. Вядуць начны лад жыцця.

**Хто заводзіць грызуноў**

Чулліывыя, пяшчотныя, спакойныя людзі. Яны часта сумняюцца ў сабе. Не любяць шумныя кампаніі. Часцей за ўсё маюць «дамашняе» хобі. Вясёлыя людзі.

**Не заводзяць грызуноў**

Карыслівыя. Хуткія на пад'ём. Тыя, хто мае крэатыўнае мысленне.

### Рэптыліі

**Плюсы**

Гадаванец не бегае па кватэры, а спакойна сядзіць у тэрарыуме. Яму не патрэбны ніякі кантакт. Гаспадар можа з'ехаць на пару тыдняў і не хвалявацца, што рэптылія загіне. Пры правільным доглядзе жывуць такія гадаванцы доўга.

**Мінусы**

Ці згодныя вы карміць яе жывымі мышамі ці прусакамі? Неабходна падумаць пра ўмовы ўтрымання. Некаторым патрэбныя інфрачырвоныя лямпы. Іншым – правільны тэмпературны рэжым.

**Хто заводзіць рэптылій**

Свабодныя людзі, сацыяпаты ў душы. Тыя, хто думае неардынарна. Часам людзі, якія любяць рэптылій, любяць здзіўляць знаёмых.

**Не любяць рэптылій**

Людзі грэблівыя, бездказныя. Кансерватары.

### Папугаі

**Плюсы**

З часам гадаванец прывыкае да чалавека, можа сядзець на руках, лётаць па кватэры і вяртацца ў клетку. Гэтых птушак раяць набываць людзям, якія пакутуюць на дэпрэсію.

**Мінусы**

Птушка, якая заўжды сядзіць у клетцы, можа пачаць успрымаць чалавека як пагрозу. І пры спробе пачысціць клетку балюча дзеўбануць.

**Хто заводзіць папугаяў**

Ранімыя, уразлівыя, рамантычныя людзі. У асноўным, меланхолікі.

**Не заводзяць папугаяў**

Людзі з выбухным характарам, працаголікі.

### Акварыумныя рыбкі

**Плюсы**

Рыбкі – ціхія і спакойныя гадаванцы. Яны не пакідаюць поўсці, не ходзяць па кватэры, не адцягваюць ад бытавых спраў. Супакойваюць думкі гаспадара пасля цяжкага працоўнага дня.

**Мінусы.**

Большасць лічыць, што на рыбак няма алергіі, але гэта не так. Яна можа быць ад сухога рыбнага корму, ад вады ў акварыуме. Патрэбна значная папярэдняя падрыхтоўка.

**Хто заводзіць рыбак**

Актыўныя і тэмпераментныя людзі – каб здымаць напружанне падчас назірання за акварыумам. Мысляры – каб абстрагавацца ад свету, паразважаць.

**Не заводзяць рыбак**

Чулліывыя і грэблівыя людзі.



## Новыя правілы аўтамабільных перавозак

Абноўленыя правілы запрацавалі 12 кастрычніка. У іх ёсць змены, якія важна ведаць.

Пасажыр без білета павінны заходзіць у пярэднія дзверы, расказаў TUT.BY начальнік упраўлення аўтамабільнага і гарадскога пасажырскага транспарту Мінтранса **Сяргей Дубіна**.

– Адказнасці за парушэнне няма, але калі чалавек не паспеў прайсці да кабіны, каб набыць білет, не будуць прыняты як апраўдальныя, – адзначыў спецыяліст.

Пасажырам дазволілі правозіць у салоне вуды, садовы інвентар ва ўпакоўцы, музінструменты ў футарале, інвалідныя вазкі, мыліцы.

Са згоды перавозчыка можна будзе перавозіць ровар у неразабраным выглядзе на спецыяльных месцах.

Забраніраваць білет на міжгародні рэйс пасажыры могуць не толькі за 15 дзён, але і раней, і аж да адпраўлення аўтобуса.

Кіроўцам забаранілі курыць у салоне, перавозіць у кабіне старонніх людзей, яны павінны выглядаць ахайна.

**Паводле TUT.BY.**

# У Маладзечна прыйшоў «Яндэкс.Транспарт»

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У Маладзечне пачаў працаваць сэрвіс «Яндэкс. Транспарт», які дазваляе ў анлайн-рэжыме сачыць за рухам грамадскага транспарту на экране смартфона.**

Горад далучыўся да сэрвісу па ініцыятыве Маладзечанскага аўтапарка – пра гэта паведамілі ў самой арганізацыі. «Рэгіянальная газета» неаднойчы пісала пра праблемы з гарадскім грамадскім транспартам. З'яўленне маладзечанскіх аўтобусаў у «Яндэкс.Транспарце» выглядае калі не адным з вырашэнняў гэтых праблем, то прынамсі спосабам спрасціць жыццё пасажырам.

Пакуль сэрвіс працуе ў тэставым рэжыме і можа нейкі час не быць актыўным, не абнаўляцца.

«Яндэкс.Транспарт» паказвае карту горада, перасоўванне грамадскага транспарту розных маршрутаў у рэжыме рэальнага часу. З яго дапамогай можна даведацца час чакання транспарту на кожным прыпынку, а таксама пабачыць маршрут, па якім рухаецца аўтобус.

З дапамогай дадатку можна пабудаваць аптымальны маршрут – грамадскім транспартам, на таксі або пешшу, а таксама ўключыць будзільнік.

Скарыстацца сэрвісам можна, калі спампаваць дадатак пад назвай «Яндекс.Транспорт» з Google Play (для прылад на Android) або App Store (для прылад на iOS).

Мы ўжо праверылі сэрвіс. Пабачылі на карце, што аўтобус павінны праязджаць якраз побач з рэдакцыяй. Паглядзелі ў акно – спраўдзілі: вось ад'язджае ад прыпынку. Выглядае, што цяпер маладзечанцы і госці горада змогуць зэканоміць шмат часу і, магчыма, нерваў.

У прэс-службе «Яндэкса» паведамілі, што сэрвіс пачаў паказваць рух гарадскога транспарту на карце Маладзечна 11 кастрычніка. Цяпер у дадатку адлюстроўваюцца ўсе аўтобусныя маршруты ў Маладзечне. Дадзеныя абнаўляюцца кожныя 30 секунд. Прыпынкі і маршруты можна адзначаць як выбраныя, каб не даводзілася штораз шукаць іх нанова.

– Сёння «Яндэкс. Транспарт» працуе амаль ва ўсіх буйных гарадах Беларусі, – дадалі ў прэс-службе кампаніі.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**



Адсканупуйце QR-код, каб спампаваць Яндэкс. Транспарт у Google Play (для Android)



Адсканупуйце QR-код, каб спампаваць Яндэкс. Транспарт у App Store (для iOS)




Автобус 7
Хлебозавод
Кооперативные гаражи

**Так у «Яндэкс.Транспарце» выглядае маршрут пэўнага аўтобуса.**

# Паважаныя чытачы!
# Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі

**Тут галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць парушаць гэтыя правілы. Але больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу за ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя хлопцы самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляюцца за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай ступені цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

З пачатку 2018 года па Маладзечанскай дыстанцыі пуці было 6 выпадкаў траўмавання грамадзян, не звязаных з вытворчасцю:

- у студзені на перагоне Валожын-Палачаны быў траўмаваны мужчына, які перабягаў праз чыгуначны пераезд;
- у красавіку на перагоне Уша-Маладзечна была траўмаваная жанчына, якая выйшла на пуць за 10-12 метраў перад электрацягніком які рухаўся;
- у маі былі тры выпадкі траўмавання: на перагоне Вілейка-Маладзечна мужчына знаходзіўся на шляху руху цягніка і на гучныя сігналы не рэагаваў, на перагоне Уша-Алёхнавічы жанчына выйшла на шлях руху цягніка, на перагоне Княгінін-Будслаў мужчына сядзеў на рэйках злева па ходзе руху цягніка;
- у жніўні на перагоне Залессе-Пруды быў траўмаваны мужчына, які выйшаў на шлях руху цягніка.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне невыканання правілаў знаходжання на чыгуначных пуцях і асабістай бездакзаннасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

### Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, пераходзьце толькі па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі «Пераход праз пуці».
2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці руху цягніка, лакаматыва, вагонаў.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.
4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзьце пуці толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці іх, пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з іх толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

### Забараняецца:

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад блізка ідучым цягніком, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчным кірунку.
4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.
5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз пуці.
6. На электрыфікаваных участках наближацца да не абгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ), падымацца на электраапоры.
7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.
8. Ісці уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.
9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.
10. Ехаць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.
11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на хаду цягніка.
12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.
13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.
14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.
15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія пабудаваныя не для пераходу пешаходаў.
16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які падыходзіць або адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;
17. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах;
18. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам усім вам пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгуначных пуцях, не падвяргалі небяспецы сваё жыццё і жыццё навакольных людзей, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Дзякуй!

**З павагай,**
**Сяргей МАТРАШЫЛА,**
**начальнік дыстанцыі пуці.**
**УНП 600199567**

# Будучыя гаспадары спыталі, ці ведае Барсік англійскую мову

## Сям'я Крэйнісаў – пра тое, як іх гадаванец ляцеў у Бостан

ВАЛОЖЫН

**14 верасня Алена Крэйніс – гаспадыня прытулку для сабак у Алешчанятах, што на Валожыншчыне, – сабралася ляцець у Бостан.**



Барсік у кватэры новых гаспадароў у Бостане.

Фота забяспечана Аленай КРЭЙНІС.

### У самалёт узялі толькі Жужу

– Я павінна была адвезці новым гаспадарам двух нашых падапечных – сабак Барсіка і Жужу. Але ўжо на шляху ў аэрапорт нам паведамілі, што самалёт памянялі на меншы і клетка з Барсікам не стане ў багаж, – прыгадвае Алена.

Як ні прасіла жанчына ў аэрапорце, нічога не атрымалася: Барсік застаўся ў Беларусі з мужам Алены **Ігарам**, а гаспадыня з Жужай паляцелі. Жужа – маленькі ёрк, важыць крыху больш за два кілаграмы, таму яе можна было браць з сабой у самалёт як ручную паклажу.

### Паветранае падарожжа Масква-Бостан

Цярплівыя амерыканскія гаспадары Барсіка мусілі проста чакаць. А куратары, якія дапамагаюць Крэйнісам даглядаць і ўладкоўваць сабак, шукалі варыянты, як пераправіць сабаку за акіян. І такую магчымасць знайшлі.

Літаральна на другі дзень пасля вяртання з ЗША Алена з Барсікам паехала ў Маскву.

– Адтуль у вялізным аэробусе з суправаджальнікам мы адправілі Барсіка ў Амерыку, – расказала Алена.

### У кожнага сабакі – свая няшчасная гісторыя

Па словах гаспадыні прытулку, амаль кожны сабака, што трапляе ў Алешчаняты, мае сваю, не вельмі шчаслівую жыццёвую гісторыю. Лёс Барсіка – перапляценне трагедыі і шанцавання. Аднойчы яго ўжо брала сям'я з Бараўлянаў:

– Але для іх стала адкрыццём, што сабака дома – гэта шмат працы. Трэба ім займацца, вадзіць гуляць. А яшчэ надышоў час летняга адпачынку, і трэба было думаць, куды ўладкаваць гадаванца.

Бараўлянская сям'я пайшла па шляху наймяншага супраціўлення: проста адвезла Барсіка куратару, у якога нядаўна бралі сабаку. Добра, што хоць не выкінулі, кажа Алена.

### Зрабілі прышчэпкі, пашпарт і сталі рэкламаваць

Так сабака апынуўся на Валожыншчыне. Крэйнісы, як і ўсім сваім гадаванцам, зрабілі яму пашпарт, усе неабходныя прышчэпкі і пачалі рэкламаваць. Барсік спадабаўся сям'і з Бостана. У Алешчанятах гадаванец прабыў каля чатырох месяцаў, пакуль яго рыхтавалі да адпраўкі ў далёкае падарожжа.

– Нас вельмі насмяшыла пытанне будучых гаспадароў пра Барсіка – «ці ведае ён англійскую мову?», – прыгадвае гаспадыня прытулку. – Мы адказалі, што пакуль не, але вельмі хутка вывучыцца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дзённік мамы другакласніцы: пра хлопчыкаў, што не даюць вучыцца



**Свята мамы ў нашай школе па традыцыі адзначылі канцэртам.**

Усё было вельмі ярка, прафесійна і не зацягнута. Варын клас танцаваў вясёлы танец. Дзяўчынкі – у бліскучых спаднічках, хлопчыкі – у рознакаляровых майках. Карціну дапаўнялі пампоны з навагодняга дожджыку ў руках у другакласнікаў. Старэйшая сястрычка, сямікласніца **Юля**, таксама танцавала. Але іх танец быў больш сур'ёзны, з белымі стужкамі і касцюмамі з падсветкай.

Што-што, а танцы Варвара любіць. Чаго апошнім часам не скажаш пра матэматыку. Адымаць лічбу ад лічбы, ды яшчэ з пераходам праз дзясятак, для яе куды цяжэй, чым круціцца і міла ўсміхацца на сцэне.

Таму цэлыя выхадныя мы займаліся вусным лічэннем. А яшчэ вучылі беларускі алфавіт. І ніяк не маглі запомніць, што няма ў роднай мове літары «шча».

Па рускай і беларускай літаратурах бліжэй да сярэдзіны тыдня задалі вучыць вершы пра восень. Каб дакладна паспець, мы пачалі ў выхадныя.

*Замірае лета,*
*Заціхаюць далі,*
*Сірацее рэчка,*
*Халадзеюць хвалі.*

Вельмі арганічна гучалі з вуснаў Варвары гэтыя радкі **Якуба Коласа** на фоне восеньскіх краявідаў у вёсцы на Вілейшчыне, дзе мы адпачывалі ў суботу.

Літаратуру Вара паранейшаму любіць. З задавальненнем чытае тэксты ў падручніках, а таксама бярэ кнігі ў школьнай і раённай бібліятэках. Калі другакласнікі здавалі тэхніку чытання, прачытала больш за 80 слоў за хвіліну.

Дачку пасадзілі з новым хлопчыкам, **Мікітам**. Пытаюся «Як новы сусед?».

– Ай, мама, гэтыя хлопчыкі толькі вучыцца перашкаджаюць, – з веданнем жыцця адказвае Варвара. – Круцяцца, размаўляюць, а некаторыя яшчэ і песні ціхенька на ўроках напяваюць.

І ўсё ж Вара заўважыла, што ёсць у класе і адзін харошы хлопчык. І цукеркамі частуе, і сябруе з усімі, і дзяўчынак ён не крыўдзіць, і нават дапамагае ім у сталовай талеркі адносіць. Але як яго завуць – не скажам. Хай гэта будзе Варварын сакрэт.

Кожны панядзелак другакласнікі ходзяць у басейн. Па словах Вары, вады яна не баіцца зусім, спрабуе плаваць. Любіць, калі настаўніца ставіць на чацвертую дарожку: адтуль у канцы ўрока выходзіць даўжэй. Таму час, праведзены ў вадзе, павялічваецца хвіліны на дзве.

А яшчэ Вара палюбіла ныраць. Так палюбіла, што нават ужо замовіла нам падводныя акуляры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Перад школьным канцэртам.

# Бадзяжных кошак у Валожыне і Маладзечне стэрылізуюць бясплатна

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

**Гаспадары прытулку для жывёл на Валожыншчыне пачалі новую акцыю.**

– Калі вы ведаеце, дзе жывуць бадзяжныя кошкі, просім паназіраць за імі і пастарацца злавіць, – звяртаецца да неабыякавых чытачоў гаспадыня прытулку ў Алешчанятах, што на Валожыншчыне, **Алена Крэйніс**. – Ва ўмовах ветэрынарнай клінікі іх бясплатна стэрылізуюць і вернуць таму, хто іх прынёс.

У стэрылізаваных кошак будзе адрэзаны кончык вуха, каб пазначыць, што іх праапераравалі.

Такім чынам мы пастараемся з часам зменшыць колькасць бадзяжных жывёл, кажа Алена. У першую чаргу арганізатары акцыі просяць звярнуць увагу на кошак, што жывуць на прадпрыемствах, у вайсковых часцях, ля магазінаў.

Арганізатары будуць рады дапамозе. Запрашаюць далучыцца да акцыі жыхароў Валожына. Тэлефоны для даведак: **(8-044) 778-91-76, (8-025) 75-48-511** або **(8-029) 362-72-01.**

Маладзечанцам можна звярнуцца ў краму «Заадом» на «Модулі» да прадаўца **Таццяны Бжазоўскай**. Яна дасць неабходную візітку і раскажа, куды везці жывёлу на аперацыю.

Ужо ёсць вынікі. Стэрылізавалі некалькіх кошак з Валожыншчыны. Усе жывёлы адышлі ад наркозу і адчуваюць сябе добра.

**А. Я.**

# Яго не прызналі ветэранам вайны

ВІЛЕЙКА

**Пра лёс майго земляка, аднадумца і сябра Уладзіміра Канстанцінавіча Барысевіча, якому ў кастрычніку споўнілася 90 год.**

*Заканчэнне. Пачатак у №41.*

### Жывымі з атрада не сыдуць нават жывёлы

Яму было 13 гадоў, а ён ужо ўмеў і за плугам хадзіць, і сена касіць ды касу кляпаць. Не ўсе дарослыя мужыкі мелі такія здольнасці, як гэты хлапчук. За самастойнасць і працавітасць малога Валодзьку прынялі на гаспадарчую работу ў «аляксееўскі» атрад. Амаль два гады даглядаў у іх кароў і коней. Ад ранняй вясны да позняй восені жывёлу трэба было пасвіць, але толькі па ставах. На чыстае поле выганяць статак забаранялі камандзіры, баяліся страціць скаціну, бо ў любую хвіліну маглі наляцець немцы альбо паліцаі.

Ды і жывёлы маглі б паразбягацца да ранейшых гаспадароў, адкуль іх прыганялі. Каровы ўсё адно імкнуліся «дэзерціраваць» з атрада. На такіх «здраднікаў» акрамя пугі ў руках на дзіцячым Валодзькавым плячы вісеў карабін з пяццю патронамі ў «магазіне»: камандзір загадаў: калі не спраўляецца пуга, то карабін павінны прымаць канчатковае рашэнне.

> Таму што з атрада без дазволу камандзіра жывымі ніхто не павінны сыходзіць, нават жывёлы.

Даводзілася іншы раз і прыбягаць да загада камандавання. Дысцыпліна была вельмі жорсткая.

### Як жылі «аляксееўцы»

Неяк задумалі двое «аляксееўцаў» сысці з атрада на ўсход за лінію фронту ў дзеючую савецкую армію. Не паспелі дайсці ў канец стаўкоў, як іх дагнаў старшына атрада і там жа на месцы расстраляў. Гэты старшына быў Валодзькавым камандзірам. Менавіта ён плаціў Валодзьку за работу. Галоўным чынам – харчаванне, адзенне, а іншы раз і сподняе, нават жаночае. Здабывалі ўсё гэта, як казалі самі «аляксееўцы», на баявых аперацыях. На якіх, Барысевіч ведаць не мог, усе аперацыі былі засакрэчаныя.

Ведае толькі, што «аляксееўцы» хадзілі па начах штосьці ўзрываць. Не раз бачыў, як яны ў атрадзе самі рыхтавалі выбухоўку, выплаўляючы тол са снарадаў.

Аднойчы трое, каб не цягнуць бомбу ў атрад, вырашылі выплавіць тол на месцы, дзе яна звалілася і не ўзарвалася, проста ў двары Бычковічаў. Штосьці пайшло не так, як трэба, і бомба выбухнула, забраўшы жыцці тых траіх.

На зімовы час з лясного лагера «аляксееўцы» перабіраліся ў вёску. Галоўная іх частка размяшчалася ў будынку-васьмерыку, былой польскай стражніцы. Астатнія – у былой панскай сырабойні. Панскага маёнтку, у якім месцілася школа, не стала яшчэ ўвосень 1941. Яго і школу ў Батурыне яшчэ да з'яўлення «аляксееўцаў» спалілі невядомыя. А людзям тыя падпальшчыкі тлумачылі, што гэта робяць наўмысна, каб тут немцы гарнізон не паставілі.

### Запрасіў жорсткага старшыну да сябе

Камандзірам не даспадобы было жыць разам з радавымі. Яны абіралі сабе асобныя хаты ў Чарвяках ды Ляхах, дзе жылі жанчыны без мужоў. Валодзька без задняй думкі ўзяў ды і сам запрасіў на свой хутар на зімоўку камандзіра, таго самага жорсткага старшыну, **Пашку Федасеева**.

> Спадзяваўся, з ім будзе жыць спакайней, усё ж мужык у хаце, ды яшчэ з кулямётам.

Чым не абарона ад жулікаў ды бандытаў? Але бандытам апынуўся сам старшына. З самага першага дня кватарант запаў на старэйшую незамужнюю сястру, Еўку.

Пашка на кожным кроку не даваў спакою дзяўчыне. Спачатку не паказваў намераў, але праз нядоўгі час пачаў па-нахабнаму і нават з пагрозамі дамагацца яе. Еўка адмаўлялася да апошняга, як толькі магла.

Але пасля таго, як у Чарвяках расстралялі цэлую сям'ю **Сцяпана Валовіка** не без удзелу Пашкі-старшыны, Еўка вымушаная была пагадзіцца на сужыццё з катам.




Уладзімір Барысевіч.

Хоць Пашка і адмаўляў удзел у забойстве Валовікаў, яму ніхто не верыў. Уладзімір добра памятае тую ноч забойства, і што Пашка на хутары тады не начаваў. А суседзі Валовікаў чулі стралянiну з кулямёта, які быў у атрадзе толькі ў Пашкі.

### Перастрэлка ля хутара

Добра запомнілася адно здарэнне, якое спраўкакаваў Пашка і якое магло каштаваць ім жыцця. Неяк вясной у 1943 годзе з самага ранку, якраз на Радаўніцу, у чарговы раз на хутар да Пашкі завіталі сувязісты з суседніх Борак. Пагутарылі, сабраліся сыходзіць у свой атрад «Матросаўскі», які дыслакаваўся ў лесе каля самых Борак. А радыст месціўся са сваёй рацыяй у доме Кучко. Як толькі выйшлі з хаты, убачылі немцаў, якія ішлі з навагуцкага лесу ў накірунку Чарвякоў, але воддаль ад хутара.

У гэты час Валодзька з братам Адамам пілавалі ў двары дровы. Пашка загадаў ім хавацца, а сам з сувязістамі са зброяй заляглі за парканам. Немцы, параўняўшыся з токам, раптам змянілі кірунак і рушылі ў бок васьмерыка, дзе кватаравалі «аляксееўцы».

### Над галавой свішчуць кулі

Валодзька добра разглядзеў сярод немцаў і паліцэйскіх псаломшчыка Хаценчыцкай царквы **Сцяпана Ляшкевіча**. Ён – былы кадравы афіцэр Расійскай царскай арміі, добра валодаў нямецкай мовай, таму яго і выкарыстоўвалі як перакладчыка. Як пазней стала вядома, Ляшкевіч тады наўмысна завярнуў немцаў ад вёскі на васьмярык, каб даць магчымасць жыхарам сысці ў лес.

Абышлося б спакойна і на хутарах, калі б не Пашка са сваім кулямётам і паплечнікамі. Калі немцы былі ўжо паміж хутарам і васьмерыком, Пашка-старшына даў доўгую чаргу з кулямёта па немцах. Сувязісты падтрымалі Пашку з карабінаў. Немцы заляглі і адкрылі бесперапынную стралянiну па хутары. Перастрэлка працягвалася хвілін дзесяць.

Калі аднаго з боркаўскіх сувязістаў паранілі ў руку, «абаронцы» хутара пачалі адыходзіць да лесу, прыкрываючыся забудовамі. Следам за імі далася наўцёкі не толькі ўся сям'я Барысевічаў, але і з суседняга хутара Мікалая Паўловіча. Свіст куль над галовамі прыгінаў да зямлі. Дзе на карачках, а дзе паўзком да лесу дабраліся ўсе жывымі. Забраўшы сваю кароўку, схаваную на ўсякі выпадак на паляне ў лесе, Барысевічы разам з Паўловічамі на начоўку рушылі ў глыбіню забалочанага лесу.

### «А чаму сабак не чутна?»

На наступны дзень сем'і з асцярогай пачалі прабірацца да сваіх хутароў. На ўзлеску зрабілі прыпынак, каб агледзецца. Нічога такога падазронага не заўважылі. Усё было ціха і без руху. Ужо сабраліся выходзіць з лесу, як дзесьці ў баку Борак пачулася некалькі стрэлаў, а ў паветры запахла дымам.

Паразважаўшы паміж сабой, прыйшлі да высновы, што гэта боркаўцы смецце паляць. А ў некалькіх стрэлах нічога дзіўнага не было, бо гучалі яны паўсядзённа то там, то тут. Пачакалі яшчэ колькі і вырашылі ісці да сваіх хат, але ў нейкі момант маці Валодзькі штосьці спыніла, падказваючы нядобрае. Яе насцярожыла незвычайная хутарская цішыня

– А чаму сабак не чутна, не нашага, не вашага? – звярнулася з пытаннем да ўсіх.

### Іх прах і цяпер на полі

Паўловіч-старэйшы на гэта адказаў, што пасля такой учарашняй стралянiны не тое што сабакі, мышы з хутароў паўцякалі. І ўзяў накірунак да свайго хутара з усёй сваёй сям'ёй. Барысевічы не пагадзіліся і не рызыкнулі ісці. І не памыліліся. На хутарах была нямецкая засада.

Усю сям'ю Паўловічаў спалілі жыўцом разам з хутарам. Загінулі гаспадар Міхаіл, гаспадыня **Вольга**, сын **Аляксандр** 1926 г.н., дачка **Надзея** 1928 г.н., сын **Іван** 1932 г.н.

Там жа іх прах знаходзіцца і сёння сярод поля. Гэта трагедыя здарылася 5 мая 1943 года падчас распачатай фашыстамі блакады. Пасля блакады Барысевічы жылі ў былой польскай стражніцы, пакуль паліцаі ў 1944 яе не спалілі.

### Пра атрад «аляксееўскі» звестак няма

Пашка-старшына больш у нашы мясціны не заявіўся. Казалі, што за здзек і жорсткасць да людзей яго парашылі свае. Пасля вайны Уладзіміра ў Чырвоную Армію не прызвалі па зроку. Не прызналі яго і партызанам, удзельнікам вайны, хаця амаль два гады працаваў у іх аддзяленні забеспячэння са зброяй у руках.

Я спрабаваў атрымаць хоць якія-небудзь звесткі пра гэты «аляксееўскі» атрад, але дарэмна. Звесткі пра такі атрад адсутнічаюць. Атрымліваецца, што служыў Уладзімір Канстанцінавіч у нейкім «лятучым галандцы», таму і статус партызана і ўдзельніка вайны не атрымаў.

Крыўдна, кажа Уладзімір Канстанцінавіч, амаль два гады служыў у атрадзе, а ўдзельніка вайны не маю! Значыць, гэта не партызанскі атрад быў. А які – вось пытанне.

> Бацька шпіёніў пры Польшчы на карысць бальшавікоў, а як нядаўна высветлілася, гэтыя бальшавікі яго ў 1937-м і расстралялі.

У мірны час Уладзімір Канстанцінавіч спачатку працаваў некалькі год пасля вучобы брыгадзірам, а пасля да самай пенсіі трактарыстам у саўгасе «Лукавец». Часта быў пераможцам у працоўнай дзейнасці. Атрымоўваў узнагароды. А ў вольны час па выхадных іграў вяселлі маладым на цымбалах. Выхаваў сына і дзвюх дачок. Мае шмат унукаў і праўнукаў.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

# Жыла-была вёска: віляйчанін – пра гісторыю Астравоў

ВІЛЕЙКА

**Хачу расказаць чытачам пра вёску Астравы Вілейскага раёна. Сёння тут 16 дамоў, але няма жыхароў. Бліжэйшая вёска, Журыхі, – у двух кіламетрах, больш буйная, Любань, – у трох з паловай.**




Бабуля і дзядуля Уладзіміра Альфера Ганна і Мікалай Мамаі, што жылі ў вёсцы Астравы.

Часткова дамы ў Астравах выкарыстоўваюць нашчадкі, часткова – прадалі пад дачы. Вёска знаходзіцца ў прыгожым сасновым лесе. Тут чыстае паветра.

Для мяне гэта вёска фактычна радзіма. Тут жылі дзед з бабуляй **Мікалай Антонавіч** (1899-1984) **і Ганна Паўлаўна** (1904-2000) **Мамаі**. У вёску мы прыязджалі з Вілейкі і бавілі тут увесь вольны час.

Памятаю і сваю прабабку **Агату Лях** (1880-1968). Увогуле, Астравы – гэта вёска доўгажыхароў. Там калі да 80-ці не дажыў, лічылася, што малады памёр.

Шмат пра гісторыю вёскі расказваў мой дзед, сусед **Аляксандр Лях** (1891-1989), яго дачка **Яніна Балкоўская**, што нарадзілася ў 1930 годзе.

## Як пан на выгадных умовах купляў зямлю ў сялян

Гісторыя Астравоў ідзе ад пачатку 18 стагоддзя. У той час на месцы цяперашняга аграгарадка Любань знаходзілася вёска Юхавічы. Жыхары былі вольнымі, прыгоннага права не было. Там працякала невялічкая рэчка Вужык. За вёскай, у бок возера Нарач, пачыналася пушча.

У 1807 годзе шмат лесу і зямлю вакол рэчкі набыў пан **Іван Любанскі**, родам з-пад Любліна. На гэтай зямлі ён вырашыў пабудаваць маёнтак, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, пасадзіць парк і зрабіць сістэму сажалак для рыбагадоўлі. Для гэтага пан рассяліў Юхавічы.

Рассялялася вёска даволі прывабна для жыхароў. Пан выкупляў ва ўладальнікаў зямлю па добрай цане ці праноўваў наўзамен сваю, прычым у значна большым памеры і далей ад будучага маёнтка. Таксама даваў лес для будаўніцтва.

Неўзабаве недалёка ад будучага маёнтка з'явіліся невялікія вёскі Дзядычы, Буракі, Кульшыно, Навікі, Зімодры і Астравы. Могілкі Астравоў так і захаваліся побач з цяперашняй Любанню.

На месцы Астравоў быў лес. Пазней туды перасяліліся чатыры гаспадаркі з Юхавічаў – Ляхі, Завацкія, Казановічы і Хадзінскія. Пан перадаў ім ва ўласнасць даволі шмат лесу. Вёска расла, і перад 1941 годам там былі 23 хаты. Прычым пабудовы вельмі моцныя, з адборнага смалістага лесу.

## У панскіх сажалках і сёння ловяць рыбу

Любанскі пабудаваў маёнтак, якога сёння ў тым выглядзе ўжо няма. Пасадзіў вялікі парк з дзіўнымі дрэвамі. Пасля нядаўняга ўрагану іх засталося зусім мала. І сёння ёсць панская сістэма сажалак, якой карыстаюцца рыбакі. Былі таксама спіртзавод, млын, малачарня, завод па перапрацоўцы агародніны і садавіны, пабудовы якога выкарыстоўваюць і цяпер. З тых часоў існуе і вялікая пасека.

У маёнтку разводзілі коней, авечак. Быў вялікі статак кароў. З суседніх вёсак хадзілі туды працаваць. Да 1943 года на пасецы працаваў мой дзед Мікалай. Фактычна Любань (назва на прозвішчы пана Любанскага) стала забудоўвацца жыхарамі пасля вайны.

## Пра Астравы – у Першую сусветную

Як жылі людзі ў Астравах у 19 стагоддзі, не ведаю, бо не было ў каго распытаць. Успаміны вяскоўцаў пачаліся ад Першай сусветнай вайны. Тады Астравам пашанцавала. Вёска стала ў баку ад стратэгічных напрамкаў, і немцаў у тую вайну тут не было.

Амаль два гады ў гэтай мясцовасці фронт стаяў на месцы. За кіламетр ад вёскі стаяў расійскі полк. Афіцэры кватаравалі ў Астравах. У майго прадзеда Паўла Ляха былі ў той час толькі жонка Агата і дачка Ганна, таму ў яго хаце жыло трое афіцэраў. За пастой плацілі вялікія грошы, акрамя таго давалі многа харчу для прыгатавання ежы.

На тую вайну жыхары вёскі не трапілі, як казалі, адкупіліся. Напрыклад, мне распавядаў сусед Аляксандр Лях, як купіў паперу, што хворы. Але на ўсякі выпадак з'ехаў у Кіеў, дзе пайшоў працаваць вальцоўшчыкам на ваенны завод «Арсенал», з якога ў армію не бралі. Там Лях адпрацаваў амаль два гады і ў пачатку 1917 вярнуўся ў Астравы ўжо з жонкай **Казімірай** і вялікімі грашыма. Набыў лес і пабудаваў хату.

Распытваў я свайго дзеда Мікалая пра падзеі ў пачатку 20 стагоддзя. Са здзіўленнем пачуў, што дзед хадзіў на вайну. Ён быў вельмі добры, ніколі нікога не пакрыўдзіў. Сыходзіў з дому, калі трэба было забіць жывёлу, нават курэй секла бабуля. А тут – на вайну!

Аднойчы летам 1920 года ў вёску Кульшыно, дзе жыў тады дзед, прыйшлі салдаты з Чырвонай Арміі, і яго з суседам забралі. Завезлі на палігон ля горада Дарагабужа, што на Смаленшчыне. Там было шмат навабранцаў з Расіі, Украіны і Беларусі. Іх амаль не кармілі, пачалася эпідэмія дзэнтэрыі. Многія паміралі.

На фронт не адпраўлялі, бо не было абмундзіравання, зброі. Нарэшце, тых, у каго былі боты (у тым ліку і дзеда), накіравалі на фронт пад горад Слуцк. Ваяваць ніхто не хацеў, ды і не ўмеў. Неўзабаве іх узялі ў палон палякі і адправілі ў лагер ваеннапалонных пад Баранавічамі. Сярод палонных былі знаёмыя дзеда з суседніх вёсак. Пабыўшы ў лагеры чатыры дні, дзед з суседам вырашылі пайсці дамоў, бо там дрэнна кармілі. Аховы амаль не было. Праз месяц прыйшлі дамоў.

## Муж – у шынок, жонка – на шопінг

Да 1939 года вёска была ў складзе Польшчы. Жыхары Астравоў займаліся звычайнай сялянскай справай. Абраблялі зямлю, гадавалі скаціну, птушак. Сеялі жыта, ячмень, гарох, бульбу, лён. Жыта і ячмень потым вазілі на млын малоць. Жытняя мука і гарох ішлі пераважна на корм жывёле, з ячменнай пяклі хлеб.

Лён ішоў на даматканыя вырабы, што рабілі зімой на кроснах. Трымалі кароў, коней, авечак. З воўны вязалі адзенне, рабілі сярмягі, са скур шылі кажухі. Акрамя пчол на працы ў маёнтку, у дзеда і дома ў садзе была пасека.

Кожны тыдзень па аўторках усе з вёскі вазілі малочныя вырабы, а дзед – яшчэ і мёд, на кірмаш у Куранец. Там жылі амаль адны яўрэі, мелі лаўкі, майстэрні, шынкі.

Пасля продажу сваіх вырабаў дзед ішоў у шынок, дзе сустракаўся са знаёмымі, а бабка займалася, як цяпер кажуць, «шопінгам». Потым яна забірала дзеда, і яны ехалі дамоў разам з іншымі жыхарамі Астравоў.

У вёсцы былі дзве кузні. Яны належалі **Мікалаю Селюну** і **Аляксандру Хадзінскаму**.

Увесь час дзеці хадзілі ў школу ў Журыхі. Пазней, пры савецкай уладзе, пасля чацвертага класа – у Любань. Школа была на беларускай мове. Пры Польшчы вывучалі і польскую.

**Уладзімір АЛЬФЕР, Вілейка.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

**19 КАСТРЫЧНІКА**

**1988.** 30 гадоў таму ў Мінску ўтвораныя рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыролаг Беларусі» і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

**20 КАСТРЫЧНІКА**

**285 гадоў** з дня нараджэння **Адама Тадэвуша Станіслава Нарушэвіча** (1733 – 1796), гісторыка, паэта, асветніка, перакладчыка. Аўтар сямітомнай «Гісторыі Польшчы» (Варшава, 1780-1824), гісторыі Крыма – «Таўрыя» (Варшава, 1781). Заснавальнік польскай гістарыяграфічнай школы (г. зв. «школы Нарушэвіча»). Аўтар шматлікіх одаў, ідылій, сатырычных твораў.

**1506.** На княжанне ў Вялікім Княстве Літоўскім абраны **Жыгімонт І Стары**.

**1655.** Падпісаная Кейданская дамова – **Януш Радзівіл** з вялікай групай шляхты заключылі ўнію Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй.

**21 КАСТРЫЧНІКА**

**1878.** 140 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Пічэты**, гісторыка-славіста, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, акадэміка Акадэміі навук СССР, першага рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Памёр у 1947 годзе.

**23 КАСТРЫЧНІКА**

**1823.** 195 гадоў з дня нараджэння **Адама Плуга** (сапраўднае Антон Пяткевіч), беларускага і польскага пісьменніка, журналіста. Памёр у 1903 годзе.

**24 КАСТРЫЧНІКА**

**1656.** Падпісанае Віленскае перамір'е паміж Расійскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай аб спыненні вайны, якая пачалася ў 1654 годзе.

**1795.** Адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай.

**1864.** Нарадзіўся **Аляксей Бялыніцкі-Біруля**, заолаг і заагеограф, падарожнік.

**25 КАСТРЫЧНІКА**

**1913.** 105 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Цеслюка**, беларускага кінааператара і рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Памёр у 1977 годзе. Знятая ім на вайне кінахроніка ўвайшла ў дакументальныя фільмы «Дзень вайны», «Вызваленне Савецкай Беларусі», «Вызваленне Чэхаславакіі», а пазней прымянялася ў многіх дакументальных фільмах пра Вялікую Айчынную.

**1995.** У Салігорску памёр **Лявон Случанін** (сапраўднае Лявонці Шпакоўскі), паэт, вязень ГУЛАГу. Аўтар гістарычнай паэмы «Рагнеда» (1944), іншых твораў.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Зладзілі першы аўтапрабег па мясцінах Першай сусветнай

ВІЛЕЙКА

Яго прысвяцілі стагоддзю заканчэння вайны.

У аўтапрабегу паўдзельнічалі мясцовыя жыхары, навучэнцы з Вілейшчыны, госці з Мінска і Украіны.

На пахаваннях салдат і афіцэраў Першай сусветнай у Папоўцах, на мемарыяле ў Рускім Сяле і ў Заброддзі асвяцілі новыя памятныя пліты з імёнамі загінулых. Усяго ўстанавілі каля 350 раней невядомых імёнаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адкрылі выставу Уладзіміра Ліхадзедава

ВІЛЕЙКА

Ад 18 кастрычніка да 11 лістапада ў выставачнай зале імя Сілівановіча Вілейскага краязнаўчага музея будзе праходзіць аўтарская выстава Уладзіміра Ліхадзедава «Беларусь 1914-1918. Вайна і мір».

Выстава прысвячаецца 100-годдзю заканчэння Першай сусветнай вайны і з'яўляецца працягам аўтарскага праекта «У пошуках страчанага», які распачаўся 14 верасня 2018 года ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

Сто гадоў таму на германа-французскай граніцы, у Камп'енскім лесе, перамір'ем 11 лістапада 1918 года скончылі вайну, што цягнулася амаль пяць гадоў.

– Гэты дзень увайшоў у гісторыю як «Дзень прымірэння», дзень заканчэння Першай сусветнай. Вайны, якая пакінула глыбокі след і на вілейскай зямлі, – кажа старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава**.

Беларусь амаль на чатыры гады ператварылася ў арэну крывавых бітваў. Тут вяршыліся гераічныя подзвігі і гіблі нявінныя. Звыш 800 тысяч нашых суайчыннікаў было мабілізавана, каля 70 тысяч ураджэнцаў Беларусі загінула на франтах у складзе рускай арміі, каля двух мільёнаў сталі вымушанымі бежанцамі.

На выставе будуць прадстаўлены эксклюзіўныя фотаматэрыялы з прыватнай калекцыі вядомага гісторыка, даследчыка і аўтара кніг па Першай сусветнай вайне **Уладзіміра Ліхадзедава**.

Наведнікі выставы змогуць самі пераканацца, як вайна і мір суіснавалі на беларускай зямлі ў гады Першай сусветнай: бітвы і франтавы быт, догляд за раненымі і трагедыя бежанцаў – усе гэтыя тэмы будуць паказаныя вачыма салдат і мірных жыхароў па абодва бакі фронту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выйшла краязнаўчая кніга пра Краснае

МАЛАДЗЕЧНА

Днямі выйшла з друку новая кніга гісторыка, краязнаўцы, жыхара Краснага **Сяргея Старыкевіча**.

Кніга мае назву «Ізноў пра Краснае».

На яе старонках аўтар спрабуе раскрыць тыя пытанні, на якія не знайшоў адказаў у папярэднім выданні «Красненскія таямніцы». Больш увагі Сяргей Старыкевіч надае падзеям навейшага перыяду гісторыі вёскі.

На аснове архіўных дакументаў і ўспамінаў старажылаў краязнаўца раскрывае малавядомыя старонкі пасляваеннага перыяду гісторыі Краснага. Таксама чытач зможа знайсці звесткі , якія стануць для яго добрай крыніцай для складання радаводу сваёй сям'і. Тыраж кнігі 99 экзэмпляраў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхарку Смаргоншчыны ўзнагародзілі ордэнам Маці

СМАРГОНЬ

У канцы верасня Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб узнагароджанні ордэнам Маці жанчын, якія выхоўваюць пяцёра і больш дзяцей. Сярод іх – мама са Смаргоншчыны.

Гэта **Ганна Юрэвіч**. Жанчына працуе ў Смаргонскім філіяле Гродзенскага абласнога спажывецкага таварыства.

У спісе таксама мамы з іншых раёнаў Гродзенскай вобласці, жанчыны з Брэстчыны, Гомельшчыны, Магілёўшчыны і горада Мінска.

**Паводле PRESIDENT.GOV.BY.**

## У Барунах пасадзілі алею Маці

АШМЯНЫ

15 кастрычніка на прышкольным участку школы-садка ў Барунах школьнікі і выхаванцы садка выйшлі на закладку алеі Маці.

Пасля таго, як дрэвы пасадзілі, каля кожнага пасталі таблічкі з інфармацыяй аб удзельніках акцыі.

**Аддзел інфармацыі.**



Будучыя дактары за працай.

Фота Іллі КУРЫЛІНА.

# Вязалі хірургічныя вузлы і аперыравалі страўнік

## Жыхар Ілы – пра ўдзел і перамогу ў III Усерасійскай універсіядзе па хірургіі

ВІЛЕЙКА

**6 кастрычніка ў Маскве ва ўніверсітэце дружбы народаў правялі III Усерасійскую ўніверсіяду па хірургіі з міжнародным удзелам.**




Фота Іллі КУРЫЛІНА.

Дзмітры Мікуцкі (першы злева) са сваёй камандай – Алегам Кізюкевічам і Валерыяй Круглік – на ўзнагароджанні ў Маскве.

Такія спаборніцтвы па хірургіі арганізатары зладзілі, каб паглядзець, наколькі высокія хірургічныя ўменні ў студэнтаў медыцынскіх ВНУ Расіі і краін блізкага замежжа. З Беларусі былі толькі дзве каманды – з Гродна і Віцебска. Астатнія 18 прадстаўлялі расійскія ВНУ: былі студэнты з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Уфы, Архангельска, Разані, Тамбова, Ульянаўска, Чалябінска.

### Пачыналі з тэорыі

Каманда студэнтаў-медыкаў Гродзенскага медуніверсітэта заняла трэцяе месца.

У яе складзе быў ураджэнец Ілы, выпускнік Ільянскай сярэдняй школы **Дзмітры Мікуцкі**. Сёння ён студэнт шостага курса педыятрычнага аддзялення гэтай ВНУ. У камандзе з Дзмітрыем былі пяцікурснікі лячэбнага аддзялення **Алег Кізюкевіч** і **Валерыя Круглік**.

Як расказаў «Рэгіянальнай газеце» Дзмітры, міжнародную падзею прымеркавалі да 55-годдзя кафедры аператыўнай хірургіі і клінічнай анатоміі імя Ігара Кірпатоўскага.

– У алімпіядзе ўдзельнічалі 20 камандаў. Кожная складалася з трох чалавек, – расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» Дзмітры Мікуцкі. – Мерапрыемства складалася з трох этапаў.

На першым студэнты паказвалі тэарэтычныя веды ў галіне хірургіі, а таксама практычныя навыкі: вязалі хірургічныя вузлы і рабілі сухажыльныя швы.

Дзесяць камандаў, якія найлепш справіліся з першым этапам, пераходзілі да другога. Тут будучыя дактары-хірургі дэманстравалі лапараскапічныя ўменні – паказвалі, як рабіць аперацыі на ўнутраных органах праз маленькія адтуліны, не робячы вялікіх разрэзаў. А таксама рабілі сасудзістыя анастамоз – аперацыю па злучэнні сасудаў.

### Усе працэдуры рабілі на свіным біяматэрыяле

Па выніках у трэці этап прайшлі пяць наймацнейшых камандаў. Яны паказалі, як рабіць выдаленне часткі страўніка. У медыцыне гэта называецца субтатальнай рэзекцыяй.

Па словах Дзмітрыя, усе аперацыі рабілі на свіным біяматэрыяле.

У некаторых конкурсах каманда студэнтаў з Гродна ўвайшла ў пачэсную тройку. Яны сталі другімі ў тэарэтычных спаборніцтвах і трэцімі ў накладанні сухажыльнага шва.

У выніковым заліку гродзенцы саступілі камандзе Паўночна-заходняга дзяржаўнага медуніверсітэта з Санкт-Пецярбурга і камандзе студэнтаў-медыкаў з Віцебска і атрымалі ганаровую «бронзу».

Мы планавалі зрабіць вялікае інтэрв'ю з Дзмітрыем Мікуцкім. Але на гэту прапанову хлопец адказаў сціпла:

– Я вельмі ўдзячны вам за вялікую ўвагу да нашай маленькай перамогі. Але пакуль я ўсяго толькі студэнт і не ведаю, як складзецца мой лёс. Людзі сапраўднымі героямі становяцца, а мы ўсяго толькі свінню праапераравалі. Абяцаю, як толькі стану доктарам, згодны нават асобную медыцынскую рубрыку ў «Рэгіянальнай газеце» весці.

Ну, што ж, Дзмітры, мы запомнілі ваша абяцанне…

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Тое, што паказваюць пра турму па тэлевізары, няпраўда»

## Жыхар Смаргоні расказаў, як уплываюць на чалавека сем гадоў зняволення

**У турму Руслан Цыбоўскі трапіў у 20 гадоў. Тады ён заканчваў трэці курс вілейскага ліцэя, вучыўся на майстра сельгасвытворчасці. Апошні экзамен хлопцу здаць ужо не дазволілі.**

СМАРГОНЬ

Трагедыя здарылася ў пятнічны ліпеньскі вечар сем гадоў таму. Руслан з сябрамі ў бары на Смаргоншчыне адзначалі канец працоўнага тыдня – хлопец сумяшчаў вучобу з працай сталяра. Менавіта тут ён пасварыўся са сваім знаёмым, 33-гадовым А. Па словах Руслана, той стаў абражаць яго сваякоў. Пачалася бойка. Калі ўдзельнікаў разнялі, А. ад'ехаў ад бара на ровары і працягваў абражаць здалёк.

Руслан вырашыў «патлумачыць», што да чаго, пайшоў да яго дадому. А. выходзіць адмовіўся. Руслан разбіў шкло і залез у дом. Убачыў, што А. стаіць з нажом у руках. Як той нож апынуўся ў яго, Руслан не памятае. Удар – і нож трапіў А. у жывот.

Калі Руслан прыйшоў у сябе, папрасіў суседа выклікаць «хуткую».

Хлопец атрымаў сем гадоў і тры месяцы ўзмоцненага рэжыму за замах на забойства. Па словах Руслана, да гэтага ў яго не было нават штрафаў.

### Шлях блатнога абіраюць адзінкі

– Першыя дні ў турме прайшлі ў страху. Усё новае, незразумелае. Са слоў бывалых зразумеў, што за кратамі свае панацці. Напрыклад, менш гаварыць і больш слухаць.

Перад тым, як падняцца ў лагер, асуджаны трапляе ў карацін – невялікі барак для адаптацыі. Знаходзіцца там каля двух тыдняў. Спачатку Руслан апынуўся ў выпраўленчай калоніі №22, што ў Івацэвічах. У карацінe чалавека просяць падпісаць дакумент аб прыняцці абавязкаў ад адміністрацыі.

– Падпісаўся – ты «вязаная галава». Гэта значыць, табе навязалі абавязкі. Шмат чаго з-за іх не можаш рабіць у крымінальным свеце. Але падпісваюць многія, гэта дае паслабленне – можаш атрымаць умоўна-датэрміновае вызваленне.

Пасля Руслана перавялі ў мужчынскую выпраўленчую калонію №17, што ў Шклове. Там даседзеў «да званка». Па словах хлопца, у турме адчуваў сябе ўпэўнена.

У Шклове зона дзеліцца на жылую частку, дзе знаходзяцца 17 баракаў, і вытворчую, там асуджаныя працуюць.

Пад'ём – у шэсць раніцы. Памыцца паспяваюць не ўсе – каля ста чалавек у адным бараку. Потым ідуць на зарадку, пасля – строем у сталовую. Туды паход абавязковы. Пасля снядання зняволеных выводзяць на праверку, глядзяць, ці не адсутнічае хто. Затым вязні ідуць на працу. Перад ёй пераапранаюцца, п'юць чай. Руслан працаваў сталярам-станочнікам, рабіў дошкі для падлогі, плінтусы. У 11 – абед. Кормяць баландой – так называюць рэдкую кашу з самых танных круп.

### На святы ляпілі тарты

Прадукты можна набыць у краме па безнаяўным разліку. У кожнага асуджанага ёсць рахунак, на які сваякі могуць дасылаць грошы.

Колькасць пакупак залежыць ад рэжыму. На агульным можна набыць тавар на восем базавых велічынь, на ўзмоцненым – на пяць. Трэба не мець іскаў, каб «атаварыцца па поўнай». У краме Руслан звычайна набываў цыгарэты, тварог, малако, кефір, кілбасы, кансервы, грэчку, ролтан, чай. Кашы і макарону варылі ў пакоі для прыёму ежы. У краме і санчастцы абслугоўваюць жанчыны, прыходзяць на працу ў суправаджэнні афіцэра.

На святы ў краме набывалі чай, каржы і згушчонку, маргарын, ляпілі тарты. Збіраліся па пяць-сем чалавек.

Асуджаныя працуюць прыкладна да трох, зноў ідуць на праверку, вяртаюцца ў баракі.

– Тое, што паказваюць па тэлевізары, няпраўда. У фільмах больш жахліва ўсё.

У жылой зоне, акрамя баракаў і крамы, ёсць клуб. Там праводзяць лекцыі, размовы са зняволенымі. Напрыклад, на тэмы шкоды наркотыкаў і алкаголю, адаптацыі ў турме. У клубе ёсць кінатэатр, дзе паказваюць новыя фільмы.

– Глядзелі «Фарсаж», фільмы па коміксах Марвэл накшталт «Чорнай пантэры». Круцілі па выхадных.

Паглядзець фільмы можна і ў пакоі выхаваўчай работы, якая ёсць у кожным атрадзе. Там жа – кнігі. Руслан любіў чытаць гістарычныя. А яшчэ ў вольны час займаўся на трэнажорах у спартзале, хадзіў на стадыён. У спартзалу можна трапіць толькі тады, калі не маеш парушэнняў.

Акрамя працы, вязні могуць атрымаць спецыяльнасць швачкі, сталяра. «Корачку» станочніка Руслан здабыў яшчэ ў Івацэвічах.

### У апошнія два гады сябры не пісалі

Перадачы павінны быць у празрыстых упакоўках, кава і чай – у пакетах, цукеркі – без абгортак. Можна прывозіць прадукты, якія доўга не псуюцца. Дазволеныя тры пасылкі ў год.

І два доўгія спатканні на год, калі сваякі прыязджалі на тры дні і жылі ў пакоі падоўжаных спатканняў. І тры – па чатыры гадзіны. Падчас іх зняволены размаўляе з блізкімі праз шкло. Тэлефонны званок – тры разы на месяц. А вось лісты можна пісаць без абмежаванняў.

**Першыя тры гады Руслан часта дасылаў канверты блізкім. З кожным разам сябры адказвалі ўсё радзей. Апошнія два гады перасталі пісаць зусім.**

– Забылі, – усміхаецца з горыччу хлопец. – Больш за ўсё не хапала свабоды, канешне. Але і сустрэч з сябрамі і блізкімі, не хапала размоў з жанчынамі. Проста пасядзець і пагаварыць. Летам цягнула на возера ці рэчку, адпачыць душой.

### Дапамагаў справіцца з нудой… кот

Жывёлы ў турме забароненыя, але Руслан упэўнены – яны заўсёды былі, ёсць і будуць. У суседнім цэху акацілася кошка, гаспадар раздаваў кацянят.

– Мне трапіўся рыжанькі. Назваў Пуза, ён вельмі любіў, калі жывот чухалі. Трымаў кацяня ў кутку, са сталовай кожны раз прыносіў ежу, кілбасой з пасылак частаваў. Нічога для яго не шкадаваў. Колькі было небяспечных момантаў: ідзе рэйд, які адлоўлівае катоў. Усё, думаю, развітваюся з Пузам.

Кот пражыў так два гады. Потым адзін з сяброў Руслана выйшаў на волю, хлопец аддаў ката яму.



Руслан выйшаў на волю ў жніўні 2018 года.



Кот Пуза «выйшаў на волю» разам з адным з сяброў Руслана.

### Жыццё пасля зняволення ёсць

З тымі, з кім сядзеў, Руслан падтрымлівае сувязь, піша лісты. Плануе з часам дасылаць грошы. І, па яго словах, робіць усё магчымае, каб не патрапіць у турму зноў, закон больш не парушае.

– Самае цяжкае – прайсці гэты шлях правільна. «Не ссучыцца» і застацца самім сабой. Каб быў другі шанец – злачынства б не паўтарыў, прайшоў міма. Цяпер па-іншаму гляджу на рэальнасць, абдумваю ўсё, перш чым зрабіць. Абмежаваў круг зносінаў. Звычак адтуль не прывёз, на жаргоне спрабую не размаўляць, чыфір не п'ю. Займаюся спортам. Пацярпелага бачыў з невялікай адлегласці. Зразумеў, што ён яшчэ баіцца. Ды і на здароўе, я чапаць не збіраюся. Ужо хапіла.

Пасля турмы ўладкаваўся на працу складана. Па словах Руслана, у сур'ёзныя арганізацыі – немагчыма. Нават грузчыкам не ўзялі. Але працу ён усё ж такі знайшоў – на пілараме.

Руслан прызнаецца, што стаўленне сваякоў да яго не змянілася. А вось сяброў амаль не засталося.

– Знаёмыя быццам не памяняліі адносіны, не ведаю яшчэ. Не заўсёды атрымліваецца з-за працы толкам пагутарыць. У вочы ўсміхаюцца, а як за спіной, не ведаю, – расказвае Руслан.

**– Цяпер буду імкнуцца да лепшага, да стварэння сваёй сям'і – вельмі хочацца. Ёсць жыццё і пасля заключэння, калі не здавацца.**

Таццяна КАСЬЯН.
Фота забяспечаныя Русланам ЦЫБОЎСКІМ.

## Каратысты са Смаргоні атрымалі два медалі на Кубку Мінска

**СМАРГОНЬ**

Смаргонскія каратысты **Дзмітры Ярмак** і **Ягор Касцюшэўскі**, якія займаюцца ў СК «Чэмпіён», занялі два прызавыя месцы на Кубку Мінска па каратэ, які праходзіў у сталіцы ў пачатку кастрычніка.

Турнір сабраў 250 удзельнікаў з усіх куткоў Беларусі. У складзе каманды «Чэмпіён» (21 спартсмен са Смаргоні, Ашмянаў і Астраўца) на спаборніцтвы выехалі чацвёра смаргонцаў, але толькі дваім удалося вярнуцца дадому з медалямі.

Першае месца заваяваў Ягор Касцюшэўскі. Адзначым, што смаргонец стаў адзіным з клуба «Чэмпіён», хто падняўся на самую высокую прыступку п'едэстала на гэтым турніры. У Дзмітрыя Ермака – трэцяе месца.

– Добрыя спаборніцтвы, – каментуе выступленне смаргонскіх спартсменаў трэнер СК «Чэмпіён» **Дзмітры Куцько**. – Лёгкіх баёў не было. Гэта кажа аб тым, што ўзровень спаборніцтваў значна вырас. Добрыя баі паказалі Ягор Касцюшэўскі і Дзмітры Ярмак. У **Лёшы Шатрова** назіраецца адна і тая ж праблема, якая суправаджае яго ад турніру да турніру: дужы хлопец, валодае вялікім патэнцыялам, але не цалкам настройваецца на спаборніцтвы. **Уладзімір Грывіцкі** перайшоў у новую ўзроставую катэгорыю (12-13 гадоў). У гэтай катэгорыі свой першы бой ён прайграў.

Па словах трэнера, за апошні час, не лічачы міжнародных спаборніцтваў, Кубак Мінска – адзін з самых моцных турніраў, у якім прыняў удзел выхаванцы «Чэмпіёна».

**Паводле сайта Смаргонскага райвыканкама.**

## Вілейскаму каратэ-клубу «Самурай» – 30 год

**ВІЛЕЙКА**

20 кастрычніка вілейскаму каратэ-клубу – 30 год.

За гэты час тут падрыхтавалі сотні спартсменаў, сярод іх ёсць кандыдаты ў майстры спорту і майстры спорту, чэмпіёны краіны. Многія каратысты маюць дасягненні на міжнародных спаборніцтвах.

У гонар юбілею клуб плануе моладзевыя спаборніцтвы. Запрасіць некалькі сталічных камандаў. Ганаровымі гасцямі стануць ветэраны клуба.

**Аддзел інфармацыі.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Чысць» прайграла «Лідзе»

**МАЛАДЗЕЧНА**

Розыгрыш 26-га тура закончыўся пройгрышам гаспадароў.

Адзіны гол ад «Чысці» забіў **Аляксандр Ксенафонтаў**. Лідчане адказалі двума галамі.

Каманда застаецца на апошнім, 15-м, радку турнірнай табліцы.

## «Мядзведзі» не здаліся «Граніту»

**СМАРГОНЬ**

Гульня 13 кастрычніка ў Смаргоні скончылася з лікам 0:0.

Гаспадары не саступілі гасцям з Мікашэвічаў, якія апярэджваюць іх на некалькі пазіцый у турнірнай табліцы.

«Смаргонь» пасля 26-га тура займае дзявяты радок турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Энергетик-БГУ (Минск) | 25 | 19 | 4 | 2 | 59-18 | **61** |
| 2 | Славия (Мозырь) | 24 | 17 | 7 | 0 | 55-10 | **58** |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 24 | 17 | 4 | 3 | 54-17 | **55** |
| 4 | Лида | 24 | 14 | 4 | 6 | 33-15 | **46** |
| 5 | Нафтан (Новополоцк) | 24 | 9 | 8 | 7 | 25-22 | **35** |
| 6 | Гранит (Микашевичи) | 25 | 8 | 11 | 6 | 27-27 | **35** |
| 7 | Локомотив (Гомель) | 24 | 8 | 9 | 7 | 36-24 | **33** |
| 8 | Слоним-2017 | 24 | 8 | 6 | 10 | 34-35 | **30** |
| 9 | Сморгонь | 24 | 6 | 9 | 9 | 17-37 | **27** |
| 10 | Химик (Светлогорск) | 24 | 7 | 5 | 12 | 26-34 | **26** |
| 11 | ЮАС (Житковичи) | 24 | 5 | 9 | 10 | 20-31 | **24** |
| 12 | Орша | 25 | 6 | 3 | 16 | 26-45 | **21** |
| 13 | Волна (Пинск) | 24 | 4 | 7 | 13 | 19-45 | **19** |
| 14 | Барановичи | 24 | 3 | 7 | 14 | 14-31 | **16** |
| 15 | Чисть | 25 | 1 | 7 | 17 | 27-81 | **10** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца першай лігі.

# Вілейскі батутыст заняў чацвертае месца на III юнацкіх Алімпійскіх гульнях

**ВІЛЕЙКА**

**Калі ў Беларусі была ноч з 14 на 15 кастрычніка, адбыліся фінальныя спаборніцтвы па скачках на батуце ў межах III юнацкіх Алімпійскіх гульняў у Буэнас-Айрасе. Іван Літвіновіч з Вілейкі заняў чацвертае месца.**

Гэта быў восьмы дзень гульняў. Першае месца ў скачках на батуце заняў прадстаўнік Кітая.

Падчас адбору 8 кастрычніка Іван Літвіновіч быў першым у сваёй кваліфікацыі. І галоўнага апанента – спартсмена з Кітая – абагнаў з адрывам у шэсць ачкоў.

**На сайце Нацыянальнага алімпійскага камітэта суддзі прадказвалі перамогу вілейскаму батутысту.**

Напярэдадні фінальнага выступлення мы звязваліся з мамай Івана, трэнерам па спартыўнай акрабатыцы **Таццянай Літвіновіч**. Жанчына расказала, што сын трэніруецца, мае баявы настрой. Аднак спорт ёсць спорт.




Фота з сайта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі.

Іван Літвіновіч падчас фінальнага выступлення.

III юнацкія Алімпійскія гульні праходзілі ў Буэнас-Айрасе ад 6 да 18 кастрычніка. Ад Беларусі ў дэлегацыю ўвайшло 37 спартсменаў, а таксама іх трэнеры па лёгкай атлетыцы, стральбе з лука, веславанні, мастацкай гімнастыцы, спартыўнай гімнастыцы і інш. Сярод іх – чэмпіён Еўропы па скачках на батуце сярод юніёраў Іван Літвіновіч і яго трэнер **Вольга Уласава**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Надвор'е было лепшым за вынік

## Як правodзілі футбольны сезон

**МАЛАДЗЕЧНА**
**АШМЯНЫ**

**У рэгіянальным дэрбі сустрэліся каманды з розных полюсаў турнірнай табліцы. Ашмяны размяшчаліся на трэцім радку, Маладзечна – на дзясятым.**

Беглы позірк на стартавы пратакол не дапамагаў падсілкоўваць ілюзіі наконт перспектыў гаспадароў атрымаць станоўчыя эмоцыі пасля заканчэння сустрэчы. Трэнерскі штаб унёс у пратакол толькі 12 прозвішчаў, а адзіным запасным быў 38-гадовы **Арцём Ганчарык**.

Гульню можна было назваць роўнай толькі першыя 20 хвілін. Яны ўмясцілі ў сябе ўдар маладзечанскага нападаючага **Віталя Пачкоўскага** ў штангу, хай нават з афсайду, першы гол гасцей і яшчэ адзін небяспечны момант нашай каманды, што **Мікіта Дудо** стварыў для **Сяргея Галюка** – той з вельмі зручнага становішча стрэліў нашмат вышэй за вароты.

Далей на полі была толькі адна каманда. І ў першым тайме абарона, кіраваная ўзроставымі **Максімам Чабрыцкім** і **Сяргеем Кратом**, яшчэ трымала строй. А ў другой палове гульні на фоне стомы рассыпалася, як картачны дамок, і не моцна замінала нападаючым Ашмянаў накідваць у вароты **Паўла Шчарбачэні** поўную авоську галоў.

0:6. Але гэта было выдатна. Зялёны, прыемны воку, газон, бездакорна блакітнае неба і незвычайна ласкавае сонца – усё стварала выдатную абстаноўку для прагляду гульні заўзятарамі. Аднак самі гледачы адмаўляліся праявіць якую-небудзь актыўнасць. Атмасферу на трыбунах можна было назваць камернай. І, калі змаўкаў нешматлюдны фанацкі сектар, была магчымасць пачуць у цішы, як расце трава.

**Сяргей УЛАДЫКА, Маладзечна.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. План работы з дакладнымі паказчыкамі нормы і тэрмінаў выканання.
2. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне.
4. Занятак з мэтай забавы, адпачынку.
8. Заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне.
9. Нахіл галавы ў знак прывітання.
11. Бакавы адростак на ствале дрэва.
12. Апытальны ліст для збору пэўных звестак.
14. Частка.
15. Паляўнічы сабака, прывучаны гнаць звера.
18. Невялікая талерка з паднятымі берагамі, на якую ставіцца кубак або шклянка.
19. Казачнае страшыдла ў выглядзе крылатага агнядышнага змея, які пажырае людзей і жывёл.
23. Перыяд, этап у развіцці.
25. Воінскае званне вышэйшага каманднага саставу ў ваенна-марскім флоце.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Пачынала яна сваю кар'еру з самых нізоў. Паступова прасоўвалася ўсё далей, і стала раўняцца каню. Пасля кар'ера падняла да статусу дарадцы ці прэм'ер-міністра. А ў выніку стала мацней за ўсіх.
5. Рэмень.
6. Тое, што і аб'ява.
7. Янка Купала: "Дум не скуеш ...".
10. Перапынак у занятках, працы.
13. Орган у птушак, насякомых і некаторых млекакормячых, які служыць для лятання.
16. Вар.
17. Новы раман Віктара Марціновіча.
18. Двайны гаршчок.
19. Пісьмовае або вуснае пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах.
20. Вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, у задачу якой уваходзіць развіццё навук або мастацтваў.
21. Пасудзіна, у якую дояць малако.
22. Тытул старажытнарымскіх імператараў.
24. Алмаз.
25. Тлушч з раслиннага насення.
26. Пляцоўка ў садзе, скверы, перад домам.

## Адказы на крыжаванку з №41

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чакаць. 2. Улік. 4. Чулы. 7. Чапяла. 9. Настой. 10. Увага. 12. Нагодка. 15. Навіна. 18. Корч. 20. Клішэ. 21. Корпус. 24. Націянкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Узор. 3. Соль. 4. Чакушка. 5. Колер. 6. Указка. 8. Дыназаўры. 10. Ужытак. 11. Навар. 13. Якуцця. 14. Навык. 16. Гром. 17. Водаправод. 19. Павукі. 21. Консул. 22. Чарот. 23. Угрэць.



## ● ГАРАСКОП 19-25 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Не паддавайцеся спакусам, своечасова адыходзьце ў бок і пераключайце ўвагу на што-небудзь іншае. Дыпламатычнасць і абаянне дазволяць вам пераадолець любыя перашкоды.

**ЦЯЛЕЦ.** Прымаць важныя рашэнні цяпер не варта, бо рэалізаваць што-небудзь пакуль вам не ўдасца. Але затое ў вас ёсць шмат часу і магчымасці, каб распланаваць сваю дзейнасць на будучыню.

**БЛІЗНЯТЫ.** Праявіце ўвагу да іншых людзей, паспрабуйце па меры магчымасці ім дапамагчы. Станоўчыя ўчынкі ў гэты час вітаюцца, як ніколі раней. Дні запатрабуюць ад вас майстэрства ў здзяйсненні фінансавых аперацый, каб не выпусціць сваё і прымножыць капітал.

**РАК.** Нешта вы адараваліся ад жыцця, не ўспрымаеце яго ў поўнай меры і можаце зусім забыць пра надзённыя праблемы, аддаліўшыся ў абстрактныя вобласці. Калі вы ў гэты час занятыя напісаннем кандыдацкай або доктарскай працы, то для вас такое становішча нядрэннае, астатнім жа трэба быць больш прызямлёнымі.

**ЛЕЎ.** Вас можа наведаць негатыўны настрой з-за таго, што справы не ідуць так, як вы планавалі. Але калі вы дазволіце сабе не браць пад увагу справы, то сітуацыя тут жа наладзіцца, і вы зможаце ў поўнай меры атрымаць асалоду ад нічым не абцяжаранага жыцця, радавацца зносінам з блізкімі людзьмі.

**ДЗЕВА.** Вы шмат працавалі. Скіньць груз стомленасці і зноў вярнуцца да жыцця вам дазволіць невялікае свята, вечарынка або проста прыемны вечар у кампаніі сяброў.

**ШАЛІ.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя галоўныя. І гэта зусім не эгаізм, бо чым больш любові вы назапасіце ў сабе, тым больш яе зможаце даць тым, хто вас акружае.

**СКАРПІЁН.** Праявіце мудрасць і вытрымку. Да вас могуць звярнуцца за парадай. Уважліва вывучыце праблему іншага чалавека, і тады вы зможаце даць слушную параду. Часам тыя, якія чакаюць вашай дапамогі, могуць надакучаць вам, таму ўзнікне жаданне павесці сябе не карэктна. Паспрабуйце знайсці спосаб выказаць свае эмоцыі і абурэнне як-небудзь інакш. Пасля вы будзеце ўзнагароджаны за сваё цярпенне.

**СТРАЛЕЦ.** Спрыяльны час для любых дзеянняў, звязаных з добраўпарадкаваннем дома, добры час для зносін з блізкімі людзьмі, заключэння шлюбу. Вас ахопіць адчуванне лёгкасці і шчасця.

**КАЗЯРОГ.** Вас можа ахапіць смутак і расчараванне, пачуццё страты. Гэтаму будуць папярэднічаць рэальныя падзеі, але ў вашым жыцці ўсё не так дрэнна, вы проста самі сябе накручваеце.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы можаце смела разлічваць на іншых людзей, калі вам спатрэбіцца дапамога, парада ці падтрымка, прычым вы можаце атрымаць дапамогу як словам, так і цалкам канкрэтнай справай.

**РЫБЫ.** Пачуццёвыя парывы могуць накрыць вас з галавой, асабліва калі вы вырашыце браць быка за рогі і ў што б там ні было атрымаць жаданы аб'ект. Можна з упэўненасцю сказаць, што ваш напор дазволіць вам атрымаць тое, што хочаце. Але вось вынік ці парадуе?!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | 7 | | 2 | 9 | 8 |
| | 7 | | 9 | | 2 | 1 | | |
| | | | 1 | | | 7 | 5 | 6 |
| 3 | | 1 | | | 7 | 5 | | |
| | 6 | 9 | | | | | | |
| | 4 | | | | 9 | | 1 | |
| 2 | | 7 | | | | | 6 | |
| | 8 | | | | 3 | | | |
| | | 4 | 8 | | | 3 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● НАДВОР'Е

## 20 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +15 | | +9 / +12 | | +6 / +11 | | +4 / +11 | |
| | 743 | ↘ 3 | 744 | ↙ 1 | 746 | ↙ 3 | 743 | ↗ 6 |
| Вільня | +8 / +15 | | +7 / +14 | | +5 / +13 | | +5 / +11 | |
| | 750 | ↘ 2 | 750 | → 3 | 753 | ↖ 1 | 748 | ↑ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветру м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.50
Захад 18.04
Даўжыня дня 10.24

Усход 17.08
Захад 2.19
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -8,1°С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +14,9°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,1 мм у 1980 годзе
Паводле meteoinfo.by.



## Чытайце праз тыдзень

● **Яны жылі ў суседніх вёсках. Прыйшоў час – пабраліся шлюбам. Здарылася гэта 60 год таму. Гісторыя знаёмства і жыцця маладзечанцаў Зінаіды і Уладзіміра Дзянісікаў – у наступным нумары.**

## Вожык ужо падпісаўся на «Рэгіянальную газету»! А вы? :)



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



## Пасля таго, як валанцёры двойчы прыбралі сквер, там паставілі сметніцу

**МАЛАДЗЕЧНА**

«Рэгіянальная газета» арганізоўвала прыборку сквера за касцёлам па Вялікім Гасцінцы двойчы – летась і сёлета.

У межах акцыі «Зробім» выданне запрашала валанцёраў далучыцца да прыборкі сквера. Сёлета ў акцыі ўдзельнічалі 15 чалавек і сабралі больш за дзесяць мяшкоў смецця.

Падрабязней пра сёлетнюю прыборку чытайце на сайце **rh.by**.

Падчас прыборкі ўдзельнікі заўважылі, што сквер засмечаны яшчэ і таму, што ў ім проста няма сметніц.

Пасля акцыі ліст з прапановай паставіць некалькі сметніц на гэтым участку рэдакцыя даслала УП «Камунальнік».

15 кастрычніка мы заўважылі, што ў пачатку сцежкі сквера сметніца стаіць. Спадзяёмся, што на гэтым участку стане больш сметніц, а тэрыторыя стане менш забруджанай.

Што сметніц трэба больш, сведчыць тое, што свежая сметніца вельмі хутка напаўняецца.

**Аддзел інфармацыі.**




Ілюстрацыя забяспечана Маладзечанскім ГРАНС.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ад чаго ў жыцці вы ніколі б не адмовіліся?



**Максім Мікуліч, сталяр, Маладзечна:**
– Ніколі і ні за што не адмоўлюся ад сваёй мары. Для мяне здрадзіць мары раўназначна таму, што выдаеш самога сябе. Лічу, гэта недапушчальным ні пры якіх абставінах. Мару пераехаць у Канаду, сустрэць свайго чалавека і там наладзіць слаўнае жыццё.



**Андрэй Кандратовіч, памочнік машыніста, Маладзечна:**
– Ад дачкі Аліны. Яна мая самая маленькая і заўсёды любімая. Сэнс майго жыцця, дзеля каго я жыву.



**Ірына Рухля, дызайнер, Маладзечна:**
– Самае галоўнае – не адмаўляцца ад сваёй мары. Ад блізкіх людзей, што з імі не адбывалася б. Ад сябе самога, якімі б якасцямі цябе не ўзнагародзіў Бог, варта працаваць над імі. Не змагла б ніколі адмовіцца ад музыкі і магчымасці тварыць і ствараць.



**Арцём Жук, энергетык, Маладзечна:**
– Ніколі не адмовіўся б ад вялікай і шчырай любові. Але, на жаль, такога няма.



**Настасся Шыдлоўская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Ад зялёнай гарбаты, салаты пад шубай, сваякоў і дачкі. Ад мяса і свайго колеру валасоў, сну і душа, добрай музыкі і фільма.



**Таццяна Лаўнікoвіч, у дэкрэтным адпачынку, Астравец:**
– Ад дзяцей. Ксюша і Кірыл – гэта маё шчасце, я іх вельмі моцна люблю.



**Аляксандр Ляцяга, кіроўца-дальнабойшчык, Маладзечна:**
– На першым месцы – бацькі, яны заўсёды будуць любіць цябе, самыя дарагія людзі ў жыцці і ніхто ніколі іх не заменіць. На другім – матацыкл, ён параўнальны з крыламі. За рулём забываеш пра праблемы і атрымліваеш асалоду ад жыцця.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1224) 19.10.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 957. Падпісана ў друк у 9.00 18.10.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.